 




### РАНА

Маці да сына:

— Чаму ты, як вып'еш, дык позна прыходзіш дамоў?

На другі раз сын, пасля выпіўкі, прыйшоў раніцай. Ён і кажа:

— Ну, маці, сёння я прыйшоў рана.

Прыслала **Ніна Паўлючук**



БЕЗ СЛОЎ

### У НАВАГОДНЮЮ НОЧ

Сустрэліся знаёмыя:

— Ведаеш, я на навагоднім балю ані хвіліны не сядзела.

— Так? Мы таксама не маглі дастаць століка і ўсю ноч прастаялі.

Прыслала **Ірэна Цэкала**

### ПАШКАДАВАЎ

— Каб ён прапаў, з гэтым злодзеем! — кажа Васіль.

— Так, так, — пацвярджае сусед. — Каб не ён, дык і я крыху пажывіўся б, а ён, паганец, першы дабег і ўсё сам заграбастаў.

Прыслала **М. Антанюк**

### ДЗІЦЯЧАЯ МАРА

— Ці споўнілася хоць адна ваша дзіцячая мара?

— Зразумела, так! Калі бацька ці настаўнік цёгалі мяне за валасы, я вельмі марыў стацца лысым.

Прыслаў

**Янка Салавянюк**

Анатоль ГАЛЧАНАЎ

## Дырэктар канюшні

**Асла прызначылі**
**дырэктарам канюшні.**
**Навошта і за што —**
**не ведаў сам Асёл.**

### НА ВЫСПЕ

Адзін марак, які ўратаваўся з разбітага судна, пражыў на бязлюднай выспе шмат год. Аднойчы, ён убачыў маладую дзяўчыну, якая плыла на бочцы ў напрамку выспы.

Прыплыўшы да берага, яна сказала мараку:

— Нарэшце маеш тое, аб чым марыў праз усе свае гады адзінокага жыцця на гэтай выспе.

— Ці ж бы ў гэтай бочцы было віно?! — радасна ўскрыкнуў марак.

Прыслаў **Мікола Сушч**

### У СУДЗЕ

Суддзя да абвінавачанага:

— Ці вас ужо каралі?

- Так. Дзесяць год назад.

— А потым?

— Ані разу.

— Што вы рабілі ад таго часу?

— Сядзеў у турме.

Прыслаў

**Мікола Нікіцюк**

### СПОСАБ НА СУМЛЕННАСЦЬ

«Пакольк і я хачу зарабляць грошы сумленным шляхам, прашу прыняць мяне на склад, каб загартаваць арганізм на пераадоленні спакусы лёгкага заробку.»

(З заяў у аддзел кадраў).

КУР'ЁЗЫ

## Двайны накаут

Вядомы бельгійскі баксёр Дамен перад самым пачаткам матча з моцным праціўнікам раптам выявіў, што забыў дома пальчаткі. Дамен узяў таксі і паімчаўся да дому. Там ён убачыў злодзея, які спакойна збіраў у мяшок розныя рэчы. Раззлаваны баксёр двума мацнейшымі ўдарамі збіў бандыта і тут жа пазваніў у паліцыю.

— У мяне няма часу, — сказаў ён дзяжурнаму паліцэйскаму, — я спяшаюся на рынг — прыязджайце і забярыце злодзея.

Пасля гэтага баксёр паехаў на стадыён і ў першым жа раўндзе накаўціраваў свайго сапернік а. Калі Дамен вярнуўся дамоў, ён застаў жандараў і турэмнага ўрача. Яны ніяк не маглі прывесці ў прытомнасць злачынцу.

## Думкі Яська Апалоніка

**... Маўчанне ёсць золатам,**
**за якое нідзе нічога не купіш...**

* ✲ *

**Мае надта кароткую памяць**
**але вельмі доўгія рукі...**

* ✲ *

**Рука руку мые,**
**пакуль вада не памуціцца.**

* ✲ *

**Шчасце не кол у плоце,**
**у рукі не хопіш...**

**Яська Апалонік**

# ДРУЖБА

Ніхто не аспрэчвае, сабака — прыяцель чалавека, але я, усё такі, люблю больш кошак. Кошка не гаўкае, хвастом не віляе, ходзіць бясшумна, і за кошку падатку плаціць не трэба.

Мой знаёмы прыдбаў сабаку — чыстакроўнага баксёра. Няма чаго, пародзісты быў сабака: і па вушах, і па хвасце, нават блох меў нямнога, усяго з паўфунта, не больш.

Бывала, прынясе знаёмы гарэлку, выкладзе кавалак каўбасы, сядзе за стол, а сабака тут як тут.

Глядзіць сабака ў вочы гаспадару і як бы гаворыць: «Няўклюда! Гарэлку можаш вылізаць, а каўбасу дай мне».

Штодзённа гэты сабака будзіў гаспадара, прыносіў з кіёска свежую газету, выконваў шмат іншых абавязкаў, толькі не сціраў бялізны.

Калі гаспадар знімаў са сцяны гітару і браў першыя акорды, сабака люта выў і зараз жа супакойваўся, як гаспадар адкладаў інструмент.

Трэба прызнацца, знаёмы іграў паршыва, не маючы слыху — фальшаваў. А сабака, відавочна, разбіраўся ў музыцы.

Нейк знаёмы запрасіў да сябе сваю каханую. Ці то жаніцца яму ўзбрыло, ці меў намер іншыя важныя справы аформіць. Сабака абнюхаў трамадзяначку, чхнуў, потым падняў лапу і распісаўся на новенькіх туфельках.

Ад падобнага нахабства знаёмы аслупянеў, а грамадзяначка ўпала ў істэрыю. Потым яна аб'явіла, што больш не пераступіць парога, дзе яе за ліхтарны слуп прыймаюць.

Госця пашла, а сабака сеў супраць гаспадара, і той у сабачых вачах чытае: «Я сваіх дам не прыводжу ў хату, і табе няма чаго».

Знаёмы падумаў, падумаў і прызнаў сабаку слушнасць, кавалерам застаўся.

Пасля гэтага здарэння дружба паміж чалавекам і сабакам яшчэ больш умацавалася.

Калі знаёмы вяртаўся ноччу, пёс абнюхваў гаспадара і заўсёды пазнаваў, дзе быў двухногі прыяцель: ці ў піўной, ці ў прыяцелькі, ці забаўляўся картамі.

Кожную раніцу сабака падаваў гаспадару шкарпэткі, гальштук, туфлі, але з пахмелля гаспадар не мог знайсці сваіх рэчаў.

Лежачы пад сталом сабака назіраў, як, лаючыся, гаспадар шукае рэчы. Хоць чалавек здагадваўся, што сабака іх захаваў, аднак не прымушаў яго да пошукаў. Ведаў, што сабака карае яго за ўчарашнія паводзіны.

Шкадаваць даводзіцца, людзі добрыя, малавата ў нас падобных сабак. Таму з перавыхаваннем некаторых грамадзян справы ідуць тугавата.

Дзядзька Лявон



— Не дазволю, каб мяне нехта называў лёгкай жанчынай.

## Хіцер Зміцер, ды Саўка не дурны

Цягаўся галодны воўк вакол птушніка. Убачыў ён куранё і паклікаў:

— Ідзі сюды, бясхвосты, у мяне ёсць для цябе гасцінец, — і паказаў жмут залацістага пер'я. — Будзеш як кароль хадзіць.

Спакусілася куранё і выскачыла з-за плоту праз невялічкую шчыліну да ваўка.

— Цяпер я цябе з'ем, — крыкнуў воўк і схапіў бедака.

— Прабачце, — запішчала куранё. — Якая з мяне карысць? Вось мама мая — курыца тлустая, важкая. Я яе прышлю.

— Добра, — сказаў воўк. — Толькі хутчэй, а то я прагаладаўся, — і адпусціў сваю ахвяру.

— Куранё імкліва шмыгнула ў шчыліну — за плот — і паказала шэраму драпежніку кукіш:

— Н-на, выкусі! — Я — інкубатарнае!

Воўк толькі зубамі заляскаў ад злосці. А тут якраз падаспеў і вартаўнік з дубальтоўкаю.



— Як вам не сорамна паіць сына гарэлкай?
— А гэта не мой сын.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

Па просьбе **Ірыны Уладзіміраў з Бельска** змяшчаем папулярную савецкую песню

## БЕЖИТ РЕКА

Слова Евг. Евтушенко     Музыка Э. Калмановского

Бежит река, в тумане тает.
Бежит она, меня дразня,
Эх, кавалеров мне вполне хватает,
Но нет любви хорошей у меня!

Танцую я фокстроты — вальсы,
Пою в кругу я у плетня,
Я не хочу, что б кто-то догадался,
Что нет любви хорошей у меня!

Стоит береза у опушки,
Грустит одна на склоне дня.
Я расскажу березе, как подружке,
Что нет любви хорошей у меня!

Все парни спят, и спят девчата.
Уже в селе нет ни огня.
Ах, я сама, наверно, виновата,
Что нет любви хорошей у меня!

## У ТУРМЕ



— Як вы сюды трапілі?
— Меў блат у кватарунку..

 